# Слабейшы, ды не слабак



Усе мы, людзі, вядома, розныя. Адны высокія, што тыя гонкія дрэвы ў лесе, другія малога росту. Адны маюць сілу такую, што могуць горы звярнуць, а камусьці і торбу з крамы цяжка прынесці. Адны не хварэюць ні ў сцюжу, ні ў спёку, а іншы, ледзьве вецер-свяжак дзьмухне на яго, ужо сморкаецца ды за гарачы лоб хапаецца.

Але ці азначае гэта, што той з нас, хто мацнейшы ды спрытнейшы, адначасна й лепшы? І ці азначае, што слабы здароўем ды фізічным спрытам, адначасна слабы і ва ўсім іншым? Ды не ж!

Бо ў Евангеллі сказана, што «моц у слабасці дасканаліцца». Ого, на якія подзвігі здатныя часам слабыя здароўем, хілыя ды малога росту людзі! Пра такіх кажуць: «Моцныя нечалавечаю моцаю». Гэта значыць — Божаю.

**Навучы нас, Езу, любіць**
слабых і хворых,
непрыкметных і ціхіх,
тых, каго крыўдзяць,
з каго смяюцца, кім пагарджаюць
так часта
неразумныя гэтага свету.
Не дазволь, каб і мы
хоць аднойчы
сталі да гэтых, апошніх,
недальнабачных,
падобныя.
Амэн.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# У Люрдзе



Гэта незвычайнае месца ў Францыі — Люрд. Многія вернікі, якія трапляюць у Францыю, могуць не пабыць у Парыжы, не паглядзець на Эйфелеву вежу, не палюбавацца ракой Сенай, але не пабыць у Люрдзе?! Не, такое немагчыма!

11 лютага 1858 года ў Масабэльскім гроце ў Люрдзе Маці Божая аб'явілася чатырнаццацігадовай Бэрнардэце Субіру.

— Я — Беззаганнае Зачацце, — сказала Яна і нагадала дзяўчынцы пра вельмі важную рэч — патрэбу малітвы за грэшнікаў.

Маці Божая запрасіла дзяўчынку прыходзіць да крынічкі і чэрпаць з яе новае жыццё. Як гэта рабіць, кожны хрысціянін ведае: шкадаваць за ўчыненыя грахі, спавядацца, выпраўляць зло... Падчас 18-ці сустрэчаў Марыя малілася разам з Бэрнардэтай на ружанцы.

З таго часу мільёны вернікаў пабылі на гэтым месцы. Многія з іх былі тут цудоўным чынам аздароўленыя. Многія перажылі тут моцнае навяртанне і змянілі сваё жыццё...

Цудоўная гісторыя Люрду працягваецца. Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў таксама стане яе ўдзельнікам...

*А. Барткевіч*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (55)/2012 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
*Адрас рэдакцыі: 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 1658.
Падпісана да друку 24.02.2012 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Быць добрым, як хлеб



*«Гутарка» са святым братам Альбертам Хмялёўскім*

*— Брат Альберт, а як атрымалася, што бацькі пры хросце назвалі цябе Адамам Бернардам Гілярыем (прызнаюся, мне ажно зайздросна, калі хто мае па некалькі, як ты, імёнаў), а ў гісторыі Касцёла ты найбольш вядомы проста як брат Альберт Хмялёўскі?*

— А вось жа, браце Яська, бывае і такое! (*Смяецца.*) Адно толькі прашу цябе: не зайздросць ты ніколі і нікому. Калі нават у каго і дзесяць імёнаў будзе! Альбертам жа я стаў, калі ўступіў у трэці закон святога Францішка. Але да гэтага была до-о-ўгая гісторыя.

*— Ну так, распавядзі, як ты быў паўстанцам? Дарэчы, у Беларусі паўстанне 1863 года называюць па імені Кастуся Каліноўскага, а ў вас, у палякаў, яно называецца Студзеньскім.*





— Малайчына, Яська: ведаеш гісторыю! Сапраўды, я ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года, калі палякі, беларусы, літоўцы паўсталі супраць жорсткага царскага рэжыму. Быў паранены. Нават з нагой давялося развітацца...

*— Я чытаў недзе, як мужна ты перанёс ампутацыю... Жахліва!*

— Калі баліць уласнае цела, Яська, — гэта не так страшна. А вось калі бачыш, як мучаюцца іншыя людзі, — балючэй. Потым была царская турма... Таксама, скажу я табе, не мёд.

*— Дык а як ты паспеў яшчэ і мастаком стаць?*

— Жыццё ж, яно доўгае, Яська. Паспеў. Вучыўся ў Парыжы, Бельгіі, у нямецкім Мюнхене. І нарэшце вярнуўся на радзіму, у Польшчу.

*— Тады ты ўжо быў знакамітым мастаком, у цябе былі ўжо выставы, твае карціны куплялі багатыя людзі...*

— І гэта ты таксама ведаеш! А ці ведаеш, Яська, які мой твор стаў для мяне найдаражэйшы?

*— Скажы, калі ласка.*

— Я назваў яго на лаціне: *Ecce Homo*, што азначае *Вось Чалавек*.

*— У маёй мамы ёсць абразок з гэтым тваім творам. На ім — Езус Хрыстус у цярновай кароне...*

— Вось пасля гэтай працы я і не змог больш быць мастаком. Не, Яська, я не супраць мастацтва, але навокал было столькі бядоты! Я не змог больш пісаць карціны, ездзіць на выставы, «тусавацца», як у вас цяпер кажуць, з мастакамі. Замест усяго гэтага я пайшоў да бедных, абяздоленых, гаротных. Так і паўсталі ў Касцёле альбертынцы і альбертынкі, людзі, якія разам са мной дапамагалі найбяднейшым. Такіх шмат было ў тыя гады.

*— Іх і цяпер хапае. А дзецям вы таксама дапамагалі?*

— Вядома. Мы засноўвалі прытулкі для бяздомных, дамы для сіротаў, прытулкі для састарэлых. Усяго мы апекаваліся 21-м гэткім домам. Нашым галоўным правілам мы абралі наступнае: **«быць добрым, як хлеб»**.

*— У адной песні пра Хрыста гэтак спяваецца! Ну так, вы ж наследавалі Яго сваім жыццём... Скажы, брат Альберт, а не шкадуеш, што ўсё так атрымалася: быў мастаком, а стаў апекуном беднякоў?*



Брат Альберт Хмялёўскі. «Ecce Homo».

— Што ты, Яська! Я сам зрабіў выбар і лічу, што жыццё прайшло не дарэмна!

*— Недзе чытаў, што памёр ты ў беднасці, у адным са сваіх прытулкаў...*

— Ты зноў шкадуеш мяне? Я памёр, заўваж, у дзень Божага Нараджэння! Адышоў я ў вечнасць з радасцю ў душы, бо дапамог столькім людзям знайсці сваё месца ў жыцці! Гэтага ж я шчыра жадаю і табе, Яська, і ўсім чытачам «Маленькага рыцара Беззаганнай».

*— Дзякуй, брат Альберт!*

*Гутарыў*
*Яська Запытальнік.*

# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА



**Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне і не забараняйце ім, бо такім належыць Валадарства Божае** (Лк 18, 16).

**Яны сказалі Яму: «Раббі (што азначае «настаўнік»), дзе жывеш?» Ён сказаў ім: «Ідзіце і ўбачыце»** (Ян 1, 38 – 39).



*Малюнак Юлі Карэйва, г.п. Астравец.*

З Езусам мы можам сустрэцца ў самых розных месцах: па дарозе ў школу ці са школы, дома, калі размаўляем з Ім у малітве, за сталом, калі ўсёй сям'ёй спажываем абед ці вячэру, на праходцы, у полі, лесе, на возеры... Ён прысутнічае ўсюды. Але ёсць выключнае месца, дзе Ён заўсёды чакае нас. Гэтае месца – **касцёл.**

Ёсць таксама асаблівы час, калі мы можам непасрэдна сустрэцца з Ім. На **святой Імшы**. Гэтая сустрэча асаблівая, надзвычай важная, напоўненая таямніцамі. На Імшы не бывае выпадковых словаў, рухаў, жэстаў. Тут усё мае свой вялікі сэнс...





Касцёл – гэта дом Божай сям'і. Праз хрост ты таксама належыш да гэтай сям'і. У касцёле нас заўсёды чакае Езус. Таму мы адкладваем усе нашыя важныя справы дзеля гэтай **сустрэчы з Езусам.** Мы ідзем у святыню заўсёды прыгожа і акуратна апранутыя.





На святой Імшы мы размаўляем з Богам і праслаўляем Яго. У гэтай размове ўсё надзвычай важна: словы, якія прамаўляе святар, тое, што гаворым мы, тое, як і перад Кім мы схіляем галовы альбо кленчым. Сустрэча гэтая не толькі вельмі важная, але адначасна і радасная.

*Увага:* *конкурс*



# БЫЦЬ СВЯТЫМ — РАДАСНА!

Сябры! Наш часопіс аб'яўляе конкурс «Быць святым — радасна!». Пра што можна расказваць у гэтым конкурсе? Ну, вядома, пра святых людзей, якія жылі даўно альбо нядаўна, дзесьці далёка альбо ў нашай краіне, і вядомыя сваімі заслугамі перад Богам і людзьмі. А таксама можна расказаць і пра таго чалавека, які жыве побач з намі сёння. Але жыве ён так прыгожа й радасна, што яго ўжо цяпер можна назваць святым чалавекам.

Мы чакаем ад вас, сябры, цікавых апавяданняў пра такіх людзей, прыгожых малюнкаў. Можна дасылаць таксама і здымкі па гэтай тэме, калі яны цікавыя, вядома. А калі хто верш напіша, то і яго прымем з вялікай радасцю!

**Парада**. Не адкладвайце гэтую важную справу ў доўгую скрынку, але бярыцеся за яе ўжо цяпер. І тады будзе надзея, што яна атрымаецца ў вас як найлепш.

Пераможцаў, вядома ж, чакаюць узнагароды.

Вынікі конкурсу будуць падведзеныя напрыканцы года.

Звяртаем таксама ўвагу ўдзельнікаў конкурсу і ўсіх, хто пажадае нам прыслаць свой ліст альбо здымак, напрыклад, для старонкі «Наш свет прыроды і мы ў гэтым свеце» ці для якой іншай. Нам можна пісаць не толькі на паштовы адрас: **220030, г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная, 1а**. Тыя з вас, хто добра валодае камп'ютарам, могуць дасылаць свае паведамленні і працы таксама і на

**E-mail:** media@catholic.by

Поспехаў, сябры! Чакаем вашых цікавых працаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Барысаў

Старажытны горад Барысаў сваю назву атрымаў ад імя яго заснавальніка — полацкага князя Рагвалода-Барыса. І было гэта ў далёкім 1102 годзе.

Шмат ваенных ліхалецця̆ў зведалі барысаўчане за сваю доўгую гісторыю. На пачатку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай войскі Маскоўскай дзяржавы 19 чэрвеня 1655 года захапілі і спалілі асноўную частку горада. Праўда, 9 ліпеня 1662 года горад усё ж быў вызвалены. На жаль, у хуткім часе зноў прыйшла бяда: у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай ён апынуўся ў складзе Расійскай імперыі.

У 1812 годзе бурныя падзеі адбыліся блізу Барысава: на рацэ Беразіне французскія войскі пацярпелі буйную паразу. А ў гады мінулай вайны фашысты стварылі на тэрыторыі горада ажно 6 лагераў смерці, дзе знішчылі 33 тысячы чалавек.

І ўсё ж насуперак усяму Барысаў — зноў прыгожы горад. Магчыма, сакрэт яго ў тым, што апякуецца ім не хто іншы, а сам святы Пётр, пра што сведчаць герб і сцяг Барысава. А можа, выстаяць гораду дапамаглі малітвы вернікаў, якія ўзнасіліся да Бога ў касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі ажно з сярэдзіны XVII стагоддзя. Трываюць яны тут і цяпер, і лепшы доказ гэтага — наступныя старонкі часопіса.

*А. Барткевіч*



# ГЭТА НАШ АБАВЯЗАК

*Што гэта значыць —*
*дапамагаць слабейшым за цябе?*
*Над гэтым пытаннем сёння разважаюць нашы чытачы з парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі з Барысава.*



Дапамога патрэбна ўсім, але найбольш яна патрэбная абяссіленым, пакрыўджаным. Дапамагаць слабейшаму — гэта наш абавязак, бо яны не могуць пастаяць за сябе. Дапамога — гэта дабро!

*Антон Доўнар, 13 гадоў.*

Я стараюся дапамагаць сваёй маці па гаспадарцы, часам раблю ёй масаж. Таксама дапамагаю свайму старэйшаму брату, раблю ўсё магчымае, каб чымсьці парадаваць іх.

*Юрый Муха, 9 гадоў.*





Дапамагаю сваім сябрам па школе рабіць хатняе заданне, таму што ім часта бывае цяжка. Маім абавязкам з'яўляецца дапамагаць слабым, малодшым, людзям старэйшага ўзросту, асабліва маім бабулям і дзядулям.

*Улляна Ермачонак, 10 гадоў.*





Заўсёды дапамагаю сваёй маці: мыю посуд, прыбіраю ў хаце, дапамагаю гатаваць ежу, выношу смецце. Таксама і сваім бабулям — па гаспадарцы. Дапамагайце ж заўсёды сваім родным і блізкім!

*Дар'я Статкевіч, 12 гадоў.*



Мне здаецца, трэба дапамагаць слабейшым, таму што іх могуць пакрыўдзіць. Думаю, што ім можна было б запісацца на дзюдо ці каратэ, каб умець абараніць сябе, калі гэта спатрэбіцца.

*Роберт Красіцкі, 11 гадоў.*



Дапамогу слабейшаму я разумею так: трэба дапамагчы людзям знайсці сэнс у жыцці. Бог хоча, каб людзі падтрымлівалі адзін аднаго, разам трывалі ў малітве, зразумелі ахвяру Сына Божага для нас.

*Анастасія Бялецкая, 12 гадоў.*



Думаю, што мацнейшы заўсёды павінен дапамагаць слабейшаму, таму што той не можа абараніць сябе. Часта яму патрэбна наша дапамога.

*Вераніка Ігнатовіч, 10 гадоў.*



Ёсць людзі слабейшыя за нас, і іх часам трэба абараняць. Я дапамагаю сваім аднакласнікам і сябрам, бацькам, братам, бабулям і дзядулям і ўсім, каму магу.

*Валерыя Драздова, 10 гадоў.*



Думаю, што трэба дапамагаць слабейшаму, а слабейшы таксама можа дапамагчы мацнейшаму. Гэта так добра, калі ўсе адзін аднаму дапамагаюць. Напрыклад, як я дапамагаю маці, бацьку, брату і сястры. Дапамагайце ўсім!

*Ангеліна Вайцяховіч, 9 гадоў.*



Я часта дапамагаю сваёй бабулі: мыю посуд, выношу смецце, хаджу ў краму, прыбіраю ў хаце. Калі хтосьці крыўдзіць меншых, заступаюся за іх.

*Дар'я Дарашкевіч, 8 гадоў.*

*Падрыхтавала сястра эўхарыстка Рэгіна Апанчонак.*

Малгажата Янкоўска

# Генерал Сцюдзёны

## Казка



Зіма ў той год была скупая на снег. Ды аднае начы яго ўсё ж трохі найшло, вось саначнікі і высыпалі на горкі. Але ж і радасць! З гары ды пад гару! З гары ды пад гару! Адзін Сымонка не катаўся. Сымонка ўзяўся ляпіць снегавіка. Ён зляпіў тры снежныя круглякі, і снегавік з хвіліны на хвіліну рос, рос... Нос, вядома ж, з морквы, стары рондаль на галаву, яшчэ вось... Але што гэта?! Нос нібы сам паварушыўся?! Ды не, хіба не. Стаіць сабе снегавік як стаяў — вялізны, са смешнымі вусамі... Ды што гэта зноў? Ён зноў паварушыў гэтым сваім смешным носам?! Што за кпіны?!



— Чаго рот адкрыў? Снегавіка не бачыў? Караля не бачыў? — пагрозліва прамовіў... снегавік.

А як вымавіў ён слова «караля», дык адразу ж з-пад вялізнага снежнага кругляка выраслі ў яго дзве каралеўскія нагі.

— Хто ты? — ускрыкнуў перапужаны хлопец. Ён ужо збіраўся ўцякаць, бо снегавік на тых сваіх снежных нагах зрабіўся яшчэ вышэйшы.

— Куды?! Куды? Раз ты зляпіў мяне, то і служы мне цяпер! Зразумеў?! — гучна й чамусьці прыкра гаркнуў снегавік.

— Хто ты? — запытаў яшчэ раз Сымонка.

— Як гэта — хто? Генерал! Давай хутчэй прыдумай мне імя! Прыгожае імя, бо ад гэтага шмат што залежыць. Апроч таго, вылепі мне нарэшце рукі, бо ашалею! Ці не бачыш, што я не завершаны? — не сунімаўся раз'юшаны снегавік.

— Чаму ты такі няветлівы? — папракнуў яго Сымонка.

— А ты не зарывайся тут! — і на хлопца дыхнуў ледзяны холад.

— Табе, відаць, найбольш пасуе імя: генерал Сцюдзёны, — прапанаваў Сымонка, прымацоўваючы снегавіку снежныя рукі.

— А што? Гучыць някепска! — згадзіўся снегавік і даў хлопцу снежнага таўхаля.

— Ай! Што ты вырабляеш?

— Ну добра ўжо, не марудзь! Збудуй мне цяпер снегавы палац!

— Але чаму ты ўвесь час мне загадваеш? — з крыўдай у голасе запытаў Сымонка.

— Бо генерал павінен загадваць! Апроч таго, я хачу мець снежнае войска і шмат багацця! Можаш мне гэта ўсё зляпіць? — не сунімаўся снегавік.

Сымонка зразумеў — ён зляпіў нягодніка. Але што было рабіць цяпер? І ён, хоць і без асаблівае ахвоты, але пачаў будаваць палац ды снежнае войска. А калі скончыў працу, генерал зморшчыўся, агледзеўшы новыя Сымонкавы творы, і ў адначас выдумаў штосьці новае:

— А цяпер зляпі мне пані генераліху. Яна мусіць быць прыгожая, каб я мог паказвацца з ёю на розных імпрэзах!

Сымонка на гэты раз з надзеяй распачаў новую працу. «Зляплю яму прыгожую снегавіху, можа, і ён тады памякчэе», — суцяшаў сябе хлопец. І насамрэч: снегавіха атрымалася не толькі прыгожая, але мела да таго ж вельмі лагодныя чорныя вочы. Ды генерал адно кінуў на яе вокам і адразу ж забыў пра яе — пачаў выдумляць новыя загады. Сымонку зрабілася прыкра, бо, аказваецца, ён зляпіў нешчаслівую генераліху. Яна таксама засумавала, і яе вочы зрабіліся яшчэ чарнейшыя ад роспачы.





— А дзе абарончыя муры?! Дзе неабходны роў перад мурамі? Кожнае каралеўства павінна быць абароненым! — верашчаў генерал.

— Але ад каго?.. — падзівіўся Сымонка. — У цябе ж няма ворагаў, — спрабаваў пераконваць генерала хлопец.

— Дык зляпі мне ворага! — цыкнуў на яго генерал Сцюдзёны і пачаў размахваць снежнымі лапамі ды тупаць нагамі — вусы ягоныя ажно захадзілі хадуном. — Хутчэй! Мне трэба з некім змагацца! Гэта вельмі важная функцыя валадара!

Сымонка моцна разгубіўся ад такой патрабавальнасці свайго снежнага твора, але потым вырашыў, што нарэшце і ён сам, аўтар, павінен праявіць прынцыповасць. Як мага спакайней ён патлумачыў снежнаму генералу, што ніхто яго не збіраецца крыўдзіць і таму не патрэбна яму шукаць ворагаў. Генерал ледзьве не захліпнуўся ад злосці на такую педагогіку, ды Сымонка вырашыў стаяць на сваім:



— Не буду ляпіць табе ворага — і ўсё тут!

— Што-о? Што-о? — генерал увесь тросся ад шаленства, размахваў лапамі, тупаў нагамі. І... тады... з генералавай галавы зваліўся рондаль!

— Мой шлем! Мой шлем! Зараз жа ўздзяўбур мне яго зноў на галаву, бо я растаю! — грозна крычаў снегавік.

Сымонка ўжо гатовы быў злітавацца над злосным генералам, але ў той самы час яму ў галаву неспадзявана прыйшла такая думка: «А што калі даць генералу растаяць?.. Тады не трэба будзе ляпіць яму ворага... Цудоўна! Лепш я зляплю генералісе іншага, добрага снегавіка, які будзе звяртаць на яе ўвагу!..». Зірнуў на генераліху, але тая толькі апусціла долу вочы ды ўсхліпвала сабе ціхенька.

— Не плач, спадарыня, — шапнуў ёй Сымонка ў снежнае вуха. — Зляплю я табе новае каралеўства. А потым зляплю яшчэ суседняе прыгожае каралеўства з іншым каралём. Будзеце сабе разам жыць спакойна й мірна да канца зімы...

Сонца свяціла ўсё мацней. Сымонка, заняты будоўляй каралеўстваў, нават не заўважыў, як ад жорсткага генерала Сцюдзёнага засталася ўсяго толькі невялічкая горка мокрага снегу...

*Пераклала І. Ж.*



*Што ж гэта за радасць – зімовы сонечны дзень! Асабліва, калі старэйшыя парупяцца ды зладзяць такую вось шыкоўную горку! Ужо хто-хто, а Янка Кандрусевіч з Каралёва Стану, што пад стольным Мінскам, разам з ягонаю сяброўкаю Юляю гэта добра ведаюць. І так цудоўна, што ў гэтыя хвіліны ў дарослых знойдзецца фотаапарат, які надоўга дапаможа захаваць у памяці гэты адбітак радасці!*



# І ты ў гэтым свеце





Ірына Жарнасек

# Птушыныя

Адна белабока-сарока
прасакатала другой:
— Раней, адкрыю вам вочы,
у чалавекаў
былі разумнейшыя дзеці!
— Чаму? — хвост угору суседчын
падскочыў антэнай.
— Чаму? Ну чаму? —
зачасцілі цёткі сарокі,
што не ўмелі ніколі маўчаць,
пачуўшы чыюсьці гаворку.
Белабока з верхняй галіны
давяла нездагадлівым ім:
— Бо птушак-пястушак у лютую зімку
дзеці кармілі тады!
— Што праўда, то праўда, —
уздыхнула бабуля Сарока,
якая
днямі тымі шчаслівымі
была яшчэ маладой:
— Сініцаў, трасучак,
малых амялушак,
гілёў чырвоных, грудастых...
Ах, як шмат яны елі, пражоры!
— А-а... нас? А-а... са-ро-каў? —
прапішчэла ўнучка Сарока,
прадчуваючы штосьці нядобрае,
мабыць.
— Ну і мы... мы таксама... —
прабурчэла бабуля Сарока. —
тое-сёе з гэтага мелі, вядома...

На галінах суседняй бярозы
гайдануліся лёгка, нібы на арэлях,
шэра-жоўтыя,
з сінімі дробнымі плямкамі
сінічкі-сястрычкі,
ды ціха запыхкалі чырвонымі грудкамі
снегіры задуменныя,
што бэзавы куст упрыгожвалі,
нібы цацкі, калядную ёлку.
Але ўсе прамаўчалі чамусьці.
Мабыць, сцюжа зімовая лютая
адабрала ахвоту гаворкі.

* * *

— Дзе павесім мы, хлопцы, —
гукнуў завадатар Пятрок, —
нашу кармушку для птушак?
Сарокам-пляткаркам пры гэтым
адразу ж, у момант,
мову і дых заняло,
а сінічкі-сястрычкі ўспырхнулі порстка,
саступаючы месца
бочачцы сіняй

# разборкі

з-пад крынічнай чысцюткай вады
з назвай прыгожаю «Віта»,
што людзі даўно
спаражнілі ды ўжо забыліся, мабыць.
А хлопцы, бач, скемілі хвацка:
акенца ў бочачцы зладзілі,
каб насыпаць туды для крылатых
крошак ды семак,
ды іншых якіх смакалыкаў...

— Ах, як смачна! Як смачна! —
першым наведаў сталоўку птушыную
грудасты Снягір і заклікаў сяброў:
— Налятайце, братове!
— А нам? А сястрычкам? —
піснула ціха малая Сінічка нясмела.
— Прапусціце наперад нашу сястру! —
загадаў снягір-павадыр, і ў голасе тым
не было ані кроплі жадання
пачуць ад кагосьці нязгоду.

Снегіры, амялушкі, малечы трасучкі,
вераб'і ды сініцы
балявалі тым адвячоркам
шыкоўна, заўзята, з размахам
у сіняватай цудоўнай сталоўцы,
што змайстравалі так спрытна
хлопцы з 5-га «Б»..

Ды гэтую радасць
птушынага дробнага птаства
назіраць аніякай ахвоты не мелі
пляткаркі-сарокі стракатыя,
чые доўгія дзюбы й хвасты
яшчэ больш падаўжэлі
ад крыўды.
На чалавекаў, вядома!
Бо ў вакенца сталоўкі з пластыку
не пралезе, хоць плач-галасі-сакачы,
сарока ніводная — вось!
— Не скрадзеш тут ніяк ані крошкі,
як было тое калісь даўней... —
уздыхнула бабуля Сарока.
Кармушка, што праўда,
зручная,
для кагосьці, але не для іх,
сарокаў хвастатых,
што налаўчыліся хвацка, увачавідкі
красці,
калі раптам дзесьці ды штосьці
кепска, даруйце, ляжыць.
Не тое, што ў гэтай сталоўцы
з пластыку,
што змайстравалі хлопцы
з 5-га «Б»!

# З дапамогаю вучняў

**Евангелле паводле святога Марка**
*Раздзел 8, вершы 1–9*

У тыя дні, калі зноў сабралася мноства людзей, і не было ў іх чаго есці, Езус паклікаў вучняў і сказаў ім: **«Шкада Мне людзей, бо ўжо тры дні яны знаходзяцца са Мною і не маюць чаго есці. Калі адпраўлю іх дадому галоднымі, аслабнуць у дарозе, бо некаторыя з іх прыйшлі здалёк»**. І адказалі Яму вучні Ягоныя: **«Хто і адкуль накорміць іх хлебам тут, у пустыні?»** Ён спытаўся ў іх: **«Колькі маеце хлябоў?»** Яны адказалі: **«Сем»**. Тады загадаў людзям сесці на зямлю. І, узяўшы сем хлябоў, узнёс падзяку, паламаў і даў вучням сваім, каб раздавалі. І яны раздалі людзям. Мелі таксама некалькі рыбінак. Езус іх благаславіў і загадаў раздаць. І яны елі, і насыціліся, і набралі сем кашоў кавалкаў, што засталіся. А тых, хто еў, было каля чатырох тысяч. І адпусціў іх.







# Мы — таксама вучні

Цудоўнае размнажэнне хлеба. Хтосьці скажа, што такое пад сілу, вядома, толькі Хрысту. Вядома, бо Ён мае Боскую сілу і моц.

Але ці заўважылі вы, сябры, што ў Езуса былі памочнікі? Яму, як і ў многіх іншых справах, дапамагалі Ягоныя вучні.

Кожны хрысціянін з'яўляецца вучнем Хрыста. Таму ён і называецца хрысціянінам! І ўдзельнічаць у справах Хрыста — наш абавязак. А якія Яго справы сёння? Тыя ж, як і дзве тысячы гадоў таму: дапамагаць бедным, хворым, галодным, тым, хто трапіў у бяду. Хрыстус сёння дзейнічае праз цябе і мяне, праз кожнага хрысціяніна, калі мы толькі не на словах, але і на справе з'яўляемся Яго вучнямі і паслядоўнікамі.

Дык варта, відаць, усім нам сёння пільней агледзецца, і тады, магчыма, мы заўважым, што камусьці вельмі патрэбныя нашыя рукі, сэрца, а то й проста ўсмешка. Гэта так цудоўна — своечасова стаць для кагосьці патрэбным, неабходным, тым, хто прыносіць радасць і палёгку, хто дапамагае камусьці паверыць у дабро, якога, нягледзячы ні на што, так шмат на нашым свеце.



# ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Вось і сустракаемся мы з вамі, сябры, у першым нумары 2012 года. Нашы загадкі з Евангелля мы будзем працягваць, бо Евангелле заўсёды актуальнае, сучаснае. І ў ім столькі загадак, што нам пазнаваць іх ды пазнаваць.

Таму з новымі сіламі ў новым годзе запрашаем вас да гэтай цікавай працы. Менавіта працы, бо чытанне Евангелля — вельмі прыгожая праца душы. Поспехаў вам у ёй!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- Пра каго казаў старац Сімяон, абвясціўшы, што ягоныя вочы ўбачылі збаўленне? (Лк 2, 22–38)
- Чаму на Грамніцы ў касцёле асвячаюцца свечкі? Ці чыталі вы штосьці пра гэта ў Евангеллі?
- Як вы думаеце, чаму 6 студзеня святар у касцёле асвячае золата?
- Чаму дзень 6 студзеня мы называем Эпіфаніяй, г.зн. аб'яўленнем Езуса ўсяму свету? (Мц 2, 1–12)
- Як называецца рака, у якой быў ахрышчаны Езус? (Мк 1, 7–11)
- У часе якога свята Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Юзаф згубілі дванаццацігадовага Езуса? У якім горадзе гэта было? (Лк 2, 41–52)
- Якую прафесію меў апякун Езуса, святы Юзаф?





*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»,** *змешчаныя ў № 4 за 2011 г.*

Захарыем, па імені ягонага бацькі; Езуса; у гімне на святой Імшы «Хвала на вышынях Богу...»; у першай частцы, Радаснай; Магніфікат; што Езус збавіць усіх людзей ад іх грахоў; Архелай; дачка Фануілава.

На гэты раз, на жаль, усе, хто даслаў нам свае адказы, зрабілі адну альбо дзве памылкі. Тым не менш, узнагароду ад ксяндза Сяргея Сурыновіча атрымаюць **Оскар Усціновіч** з г.п.Свір, што на Мядзельшчыне, і **Дамініка Сухарукава** з Мінска.

Дзякуем усім за лісты і адказы. Нават калі

# Прыгадай і адгадай

Калі правільна прыгадаеш усе адказы па гарызанталі і вертыкалі, то літары ў выдзеленых клетках складуць назву зімовага хрысціянскага свята.

**Па гарызанталі:**

1. У ім нарадзілася Маці Божая.
2. Народная назва свята, якое прыпадае на 2 лютага.
3. Навяртанне апостала Паўла адбылося па дарозе ў ...... .
4. Муж Найсвяцейшай Панны Марыі.
5. Першае імя апостала Паўла.
6. Першы чалавек на зямлі.
7. Новы Запавет.
8. На кожнай святой Імшы складаецца Найсвяцейшая ... .

**Па вертыкалі:**

1. Брат святога Пятра.
2. Маці святога Яна Хрысціцеля.
3. Краіна, у якой шмат прапаведаваў Езус.
4. Першы дзень Вялікага посту.
5. Яго прынеслі маленькаму Езусу мудрацы.
6. Імя адрасата, да якога святы Павел напісаў адзін са сваіх лістоў.



І зрабілі вы памылку — гэта не страшна. Бо не памыляецца, як вы ведаеце, хто?.. І яшчэ. Калі ласка, адгадвайце загадкі адразу ж, як атрымаеце часопіс, і дасылайце нам свае адказы. Не марудзьце. Бо, на жаль, не паспелі ў час да нас цікавыя лісты ад Маргарыты Ясэпкінай з Вілейкі, Ганны Быхавец ды Яны Ананькі з Полаччыны і некаторыя іншыя. Спадзяемся, у наступны раз вы не будзеце доўга спаць! Поспехаў вам!

*Рэдакцыя*

*Адказы на загадкі з № 4 за 2011 г.*

**«Крыжаванка»** — Назарэт.

**«Напруж зрок»** — на малюнках паўтараюцца 7 элементаў.

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Прывялі ў касцёл

— Бабуля Ганна! — гукнуў ксёндз Лявон, пераступіўшы парог і трапіўшы ў прыцемак хаты. — Збірайся бягом! Паедзеш сёння ў касцёл!

З покуці азваўся слабы голас гаспадыні:

— А што ж гэта? А як жа? Што ксёндз надумаўся?

— Сёння 11 лютага — Сусветны дзень хворых, бабуля! Хутчэй збірайся, пакуль во добры чалавек не перадумаў і згодны цябе завезці!

Бабуля Ганна адно ўзмахнула рукамі:

— Што ж я надзену? Трэба самае лепшае... Хіба тое, што ў вузельчыку ляжыць у шафе, на смерць прыгатаванае...

Ксёндз Лявон засмяяўся:

— А весялейшага не маеш адзення?

Бабуля раптоўна памаладзелым голасам падхапіла жарт:

—Дык а хто сказаў, што я ў сумным збіраюся да Пана Бога?

Так і паехалі: ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі. Збіралі хворых, нямоглых, тых, хто ўжо не мог самастойна прыйсці ці прыехаць у касцёл. Ксёндз Лявон і на гэты раз выкарыстаў зручную магчымасць. Прыехаў да яго ўчора мясцовы фермер дамовіцца, калі зручней прывезці яму сваю маці ў касцёл, якая прыхварэла, а ксёндз і папрасіў: «Зрабі, добры чалавек, добрую справу — памажы мне пазбіраць ды прывезці маіх хворых парафіянаў у касцёл на Дзень хворых. Маеш аўтобус, дык і зрабі добры ўчынак!». Так і паехалі з ім разам ад хаты да хаты...

І на добрае тое выйшла! Бо колькі ж радасці было тым, хто ўжо гадамі не мог дабрацца самастойна ў святыню, у якую калісьці штонядзелі бегаў! Нават траіх на інвалідных вазках прывезлі.



— Ці ж я калі думала, ці маракавала, што зноў у наш родны касцялок патраплю? — плакала ад радасці цётка Тэкля, а дзед Макар падхапіў: — А я дык ведаў: нешта добрае будзе! Бо нядаўна прысніў, што на працэсіі вакол касцёла зноў, як і даўней, насіў харугву Маці Божай.

— Вось і не вер пасля гэтага снам! — узмахнула рукамі цётка Аўгіння.

Ксёндз Лявон жартаўліва прысароміў іх:

— Але што гэта вы так разгаманіліся ў касцёле? Да споведзі збіраецца хто?

Да споведзі прыступілі ўсе. А потым была Імша, зноў слёзы і... радасць, пра якую потым яшчэ доўга людзі прыгадвалі як пра незвычайны цуд. А для ксяндза Лявона радасць была яшчэ і праз пару дзён, калі парог сакрыстыі зноў пераступіў той самы знаёмы фермер, Андрэй Казіміравіч. Ксёндз Лявон падумаў ужо, што нешта здарылася, а ён крутнуў галавой:

— Здарылася, ксёндз, здарылася... Ведаеце, сорамна мне так пасля таго дня, што месца сабе не знаходжу, — пячэ вось штосьці ўсярэдзіне і ўсё... Як пражыў я тую радасць хворых людзей, дык і сам нібы перамяніўся... Бо сам я, разумееце, так даўно не быў у касцёле — усё справы, грошы, пільніца... Дзякуй Вам ды ім, хворым... Прывялі і мяне таксама... у касцёл...

*Прыгоду запісала І. Ж.*





# Галерэйка

Сябры! Мы вельмі радуемся кожнаму вашаму малюнку. Праўда, засмучае нас, калі вы забываеце яго падпісаць, пазначыць, дзе вы жывяце і колькі вам гадоў. А калі б вы заўсёды памяталі, што трэба яшчэ называць свае малюнкі, то і ўвогуле былі б малайцы!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*«Зімовы дзень», Каця Дыско, г.п. Астравец.*



*«Радасны дзень», Дзіма Белусь, г. Браслаў.*



*«Благаслаўлёны Юры Матулевіч», Ілля Кандратовіч, г.п. Астравец.*



*«Сустрэча з Маці», Таня Глаўдзель, г.п. Астравец.*



*«Навяртанне апостала Паўла», Маргарыта Ясэпкіна, г. Вілейка.*



*«Малітва», Наташа Арлоўская, г.п. Астравец.*



*«Мой анёл», Ганна Быхавец, в. Чарнешчына Полацкага р-на.*

